# BELARUSAN DICTIONARIES
# &
# ENCYCLOPEDIAS

## BIBLIOGRAPHY

Compiled by
VITAŬT KIPEL and ŹMICIER SAŬKA

BELARUSAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES
NEW YORK — MIENSK

# БЕЛАРУСКІЯ СЛОЎНІКІ
# й
# ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ

## БІБЛІЯГРАФІЯ

Складальнікі
Вітаўт КІПЕЛЬ і Зьміцер САЎКА

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ й МАСТАЦТВА
НЬЮ ЁРК — МЕНСК

**Над кнігаю працавалі**

*др. Вітаўт Кіпель — картатэка, навуковая рэдактура*
*Зьміцер Саўка — картатэка, сьпіс скаротаў, паказьнікі, кампутарная апрацоўка, навуковая рэдактура, тэхнічная рэдактура, макет*
*мгр. Ілона Ўрбановіч-Саўка — кампутарная апрацоўка, рэдактура*
*Натальля Кучмель — карэктура*

**Belarusan Dictionaries and Encyclopedias.**
**Bibliographic series #5.**

Library of Congress Catalog Number 2001 130663

# ЗЬМЕСТ

*Складальнікі выказваюць шчырую падзяку за дапамогу пры зборы матэрыялу й каштоўныя заўвагі*

Установы:

Аддзелу Камплектаваньня Фундамэнтальнае Бібліятэкі Нацыянальнае Акадэміі Навук Беларусі ў асобах загадчыцы спн. Аксаны СІКОРСКАЙ і супрацоўніцы спн. Галіны ЯКШОНАК

Беларускаму Аддзелу Нацыянальнае Бібліятэкі Рэспублікі Беларусь у асобе загадчыцы спн. Людмілы РАБОК

Беларускаму Дзяржаўнаму Архіву-Музэю Літаратуры й Мастацтва ў асобах дырэктара спн. Ганны ЗАПАРТЫКІ й супрацоўніцы спн. Тацяны КЕКЕЛЕВАЙ

Тэрміналягічнай Камісіі Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны ў асобах старшыні Камісіі праф. Генадзя ЦЫХУНА й супрацоўніка Камісіі сп. Аляксея ГЛУШКА

Асобы:

сп. Уладзімеру ДЗЮБУ

спн. Надзеі ЗАПРУДНІК

др Янку ЗАПРУДНІКУ

сп. Генадзю КЕСЬНЕРУ

канд. нав. Уладзімеру КУЛІКОВІЧУ

мгр Зоры КІПЕЛЬ

канд. нав. Івану ЛУЧЫЦУ-ФЕДАРЦУ

канд. нав. Ігару МАРЗАЛЮКУ

сп. Тэльману МАСЬЛЮКОВУ

сп. Віктару МУХІНУ-КОРБУТУ

спн. Аляксандры РАКАВАЙ

сп. Віктару РАМАНЦОВУ

сп. Вітаўту РУДНІКУ

спн. Алене СІВАКОВАЙ

спн. Людцы СІЛЬНОВАЙ

спн. Валянціне ТРЫГУБОВІЧ

спн. Ірыне ХМЯЛЕЎСКАЙ

сп. Антону ШУКЕЛОЙЦЮ

мгр Лявону ЮРЭВІЧУ

# *40 гадоў бібліяграфічнага зьбіраньня*

Мне ў жыцьці пайшло так, што давялося ранавата пачаць вывучаць чужыя мовы. Першаю зь іх стала расейская: камуністы выслалі нашую сям'ю зь Беларусі ў Расею. Пазьней ваенная завіруха прывяла ў Нямеччыну, дзе мусіў вывучыць нямецкую. Вышэйшую асьвету здабываў у Бэльгіі – у мове францускай, а жыцьцё й працоўная дзейнасьць праходзілі ў ангельскамоўным асяродзьдзі.

Гэтак на працягу ўсяго жыцьцёвага шляху заўсёды неразлучнымі кампаньёнамі праз годы й краіны былі СЛОЎНІК ды ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ. Слоўнік быў ня толькі ўводным даведнікам у іншую мову й культуру, але й сродкам паглыбленьня свайго разуменьня беларускае мовы! Бо кожны раз, калі я знаёміўся з тым ці іншым словам чужое мовы, у галаве шукаўся беларускі эквівалент, замацоўваліся беларускія паралелі, асацыяцыі. Сьведчу: для мяне слоўнік быў Вялікаю Кнігаю.

Напрыканцы 1950-х гадоў, каб быць прафэсійна зьвязаным зь беларусістыкаю, зь Беларускаю Справаю (ведаю: так было наканавана!), я зьмяніў асноўны занятак: пакінуўшы геалёгію, стаў бібліятэкарам, для чаго скончыў бібліятэчны факультэт амэрыканскага ўнівэрсытэту. Адным зь першых маіх заданьняў у новай прафэсіі была дапамога ў складаньні бібліяграфіі слоўнікаў славянскіх моваў*.

Якраз тады мне й прыйшла думка скласьці шырэйшую картатэку беларускіх слоўнікаў.

Спрыяла збору лексыкаграфічнай літаратуры й апрыёрнае ўяўленьне, якое панавала ў заходнім славістычным сьвеце, – што *слоўнікавае* (а пагатоў энцыкляпэдычнае) *літаратуры на*

* A Bibliography of Slavic Dictionaries / The New York Public Library. NY., 1959–1962.

*беларускай аснове амаль не існуе.* Русафільства, характэрнае для значнай часткі навуковае грамадзкасьці Захаду, стала прычынаю таго, што славістыка й наагул навуковая цікавасьць да Ўсходняй Эўропы нярэдка абмяжоўвалася русістыкаю, а ў лінгвістыцы – расейскаю моваю. Нават існаваньне вялікіх славянскіх дыяспараў (польскай, украінскай ды інш.) істотна не мяняла становішча.

Таму пры сутыкненьні з багатымі радовішчамі лексычнага матэрыялу ўзмацнялася-выкрышталізоўвалася перакананьне: на квантытатыўнай базе паказаць, што беларускае слоўніцтва featuresнабакова, шматгранна разьвітае. Рэсурсы беларускага слоўніцтва – закумуляваныя ў народнай мове, ідыяматыцы, у гістарычным справаводзтве, у немалых тэрміналягічных зборах – гэта гарант нашага існаваньня як сувэрэннае нацыі.

Вось з гэткіх інтэнцыяў і ўзьнікла жаданьне давесьці, што беларусы маюць пэўныя дасягненьні ў слоўніцтве! Гэтак паўстала й папаўнялася на працягу 1960–1990-х гадоў зыходная картатэка (прыблізна паўтысячы картак), што сталася асноваю для гэтай бібліяграфічнай працы.

З пачатку 1990-х мы, прадстаўнікі дыяспары, атрымалі магчымасьць наведваць Бацькаўшчыну. Мне выпала пазнаёміцца з маладым беларускім моваведам Зьмітром Саўкам, які таксама актыўна займаўся беларускай лексыка- й бібліяграфічнай дзейнасьцю. У ягоныя рукі я й перадаў картатэку. У 1997–2002 гадох ён працягнуў зьбіраньне матэрыялаў, выканаў тэхнічнае апрацаваньне сабраных матэрыялаў і падрыхтаваў выданьне да друку.

Гэтая кніга сталася вынікам нашае супрацы.

***Вітаўт Кіпель***

# АСНОЎНЫЯ ЗАЎВАГІ

## ДЛЯ КАРЫСТАЛЬНІКАЎ

### 1. Мэта складаньня бібліяграфіі

Гэтая бібліяграфічная праца — першая спроба складаньня бібліяграфіі беларускіх слоўнікаў (у тым ліку й энцыкляпэдычных) без тэматычнага, часавага, прасторавага ці якога іншага абмежаваньня[1]. Папярэднія бібліяграфічныя працы ня ставілі перад сабою такой задачы, таму або адлюстроўваюць толькі адзін сэгмэнт акрэсьленай намі сукупнасьці крыніцаў[2], або акумулююць матэрыял са значна шырэйшага абсягу[3], што, зразу-

[1] Складальнікі буйных бібліяграфічных працаў, прысьвечаных адмыслова беларускаму мовазнаўству, — як найранейшага, унівэрсытэцка-акадэмічнага («Бібліяграфічны ўказальнік літаратуры па беларускаму мовазнаўству». Мн., 1960), гэтак і пазьнейшых, трох акадэмічных, выданьняў («Беларускае мовазнаўства: Бібліяграфічны ўказальнік». [Вып. 1.] (1825—1965). Мн., 1967; Вып. 2. (1966—1975). Мн., 1980; Вып. 3. (1976—1985). Мн., 1993) — з розных, у тым ліку пазанавуковых, ідэалягічных прычынаў істотна абмяжоўвалі абсягі пошукаў нават на акрэсьленым імі самімі полі, што, без сумневу, адмоўна адбілася на паўнаце збораў: у бібліяграфіі ня трапілі дзясяткі даволі даступных слоўнікаў. «Указальнік уключае кнігі на рускай, беларускай і ўкраінскай мовах, [...] матэрыялы з усесаюзных, рэспубліканскіх, а ў асобных выпадках з абласных газет у сучасных межах СССР (выключэнне складаюць матэрыялы, напр., надрукаваныя ў чэшскім часопісе "Slavia" на ўсходнеславянскіх мовах). [...] Не ўвайшлі ва Указальнік стабільныя падручнікі для пачатковых і сярэдніх школ, метадычныя дапаможнікі да іх, праграмы для сярэдніх навучальных устаноў» (Беларускае мовазнаўства. [Вып. 1.] С. 3).

[2] Напр. «Тэрміналагічныя слоўнікі (асобныя выданні): 1918—1998 гг.: Бібліяграфічны даведнік» (Мн., 2000).

[3] Напр., «Словари, изданные в СССР: Библиографический указатель: 1918—1962» (М., 1966); «Bibliography of International Scientific and Techni-

мела, зьніжае рэпрэзэнтатыўнасьць бібліяграфічнага збору ў канкрэтнай сфэры[4].

Пэўная няўвага да лексыкаграфічных твораў з боку біблёграфаў (сьведчаньнем чаго ёсьць той факт, што бібліяграфія беларускіх слоўнікаў зьявілася толькі цяпер), з аднаго боку, ускладніла нам працу, з другога — маем надзею — надала ёй большае вартасьці.

> [По] языку еще предстоит огромная задача составления полного словаря белорусского языка. [...] Само собой понятно, что и существующие словари должны быть поглощены полным белорусским словарем[5].

Сёньня, праз 80 гадоў пасьля таго, як былі напісаныя гэтыя радкі, — заданьне, сфармуляванае Я. Карскім, — складаньне поўнага слоўніка — застаецца актуальным. Праўда, тэрмін *поўны слоўнік* не зусім адпавядае сучаснаму стану й, галоўнае, характару лексыкаграфічнае працы з жывою мовай. Больш дакладным на сёньняшнім этапе быў бы панятак *унівэрсальная электронная база*, што, аднак, не мяняе сутнасьці заданьня.

Спадзеючыся, што гэтая праца можа прэтэндаваць на тое, каб уважацца за самакаштоўную навуковую крыніцу, мы таксама бачым у ёй і падмурак для выкананьня аднаго з найважнейшых заданьняў беларускага мовазнаўства — пабудовы ўнівэрсальнае электроннае базы беларускае мовы, якая дасьць шырокі й трывалы грунт для стварэньня слоўнікаў разнастайнае тэматыкі й прызначэньня.

---

cal Dictionaries / UNESCO» (5th ed. Paris, 1969); «International Bibliography of Dictionaries» (5th ed. NY., 1972); Annie M. Brewer. «Dictionaries, Encyclopedias, and other word-related books» (3rd ed. Detroit, 1983); Anna De Miller. «Linguistics: A Guide to the Reference Literature» (Englewood, Colorado, USA, 2000).

[4] Гэтак, прыкладам, у 1-м выпуску «Беларускага мовазнаўства» на 120 нумараваных пазыцыяў (80 у разьдзеле «Дыялекталогія» й 30 у разьдзеле «Сучасная беларуская літаратурная мова») толькі 59 пазыцыяў рэпрэзэнтуюць слоўнікі (42 і 17 адпаведна), астатнія пазыцыі — працы, прысьвечаныя праблемам лексыкаграфіі.

[5] Акад. Е. Ф. Карский. Что предстоит сделать по белорусскому языку и литературе // Вестник Народного комиссариата просвещения. 1921. №1. С. 28.

## 2. Аб'ект бібліяграфічнага апісаньня

У якасьці аб'екту бібліяграфічнага апісаньня складальнікі абралі СЛОЎНІКІ й ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ. Неспэцыяліста можа зьдзівіць факт аб'яднаньня ў межах аднае бібліяграфіі такіх, здавалася б, розных тыпаў тэкстаў.

**§2.1. *Слоўнік* vs *энцыкляпэдыя*.** Др. Вітаўт Кіпель — прафэсійны бібліятэказнавец (ён шмат гадоў працаваў на кіраўнічых пасадах у Нью Ёрскай Публічнай Бібліятэцы), — задумляючы гэтую працу, узараваўся на англа-саксонскую (брытанска-амэрыканскую) бібліяграфічную традыцыю, у якой тэрмін *dictionary* не вычэрпваецца значэньнем 'слоўнік', — гэта ня толькі лінгвістычны, але й энцыкляпэдычны даведнік, тэрмін *dictionary* ў шырокім значэньні сынанімічны тэрміну *reference book*. Іншымі словамі, панятак *dictionaries* улучае ў сябе й *слоўнікі*, і *энцыкляпэдыі*. Сапраўды, такі падыход да акрэсьленьня *слоўніка* мае свае аб'ектыўныя падставы.

Вось як вызначаецца тэрмін *dictionary* ў дзьвюх даволі розных крыніцах. Першая зь іх — клясычны амэрыканскі слоўнік для носьбітаў ангельскае мовы — *Random House*:

> 1. A book containing a selection of the words of a language, usually arranged alphabetically, giving information about their meanings, pronunciations, etymologies, inflected forms etc., expressed in other the same or another language, lexicon, glossary. 2. A book giving information on a particular class of words, names or facts, usually arranged alphabetically[6].

Другая — брытанскі слоўнік, прызначаны для іншамоўных навучэнцаў ангельскае мовы, — Collins COBUILD:

> 1. A book in which the words of a language are listed alphabetically and their meanings are explained = lexicon. 2. A book in which words in one language are listed alphabetically and followed by words which have the same meaning in the other language. 3. Any alphabetically ordered reference book on a particular subject or a limited group of subjects[7].

---

[6] The Random House Dictionary of the English Language / Ed. in Chief Jess Stein; Managing Ed. Laurence Urdang. Unabridged Edition. NY., 1966.

[7] Collins COBUILD English language dictionary [developed and compiled in the English Department at the University of Birmingham] / Ed. in Chief John Sinclair. L.—Glasgow: Collins; Stuttgart: Klett, 1987.

Трэба прызнаць, поўнай акрэсьленасьці ў вызначэньні тэрміна *dictionary* не назіраецца ня толькі ў папулярнай, але й у спэцыяльнай літаратуры:

> The term dictionary has at times been a coverall for just about any kind of reference book, including encyclopedias; at other times it has been used to contrast with *encyclopedia* for some purposes (while excluding *thesaurus*) and with *thesaurus* for other purposes (while excluding *encyclopedia*)[8].

Расейска-савецкая лексыкаграфічная традыцыя, у рэчышчы якой ішла й «бээсэсэраўская», таксама акрэсьлівае сэмантычнае поле (далей — с. п.) тэрміна *слоўнік* даволі шырока:

> Справочная книга, которая содержит слова (или морфемы, словосочетания, идиомы и т. п.), расположенные в определенном порядке (различном в различных типах словарей), объясняет значение описываемых единиц, дает различную информацию о них или их перевод на другой язык либо сообщает сведения о предметах, сообщаемых ими[9].

Паказальна, што гэтая традыцыя не настолькі жорстка зьвязвае азначаны панятак з альфабэтнай арганізацыяй, як гэта мы назіраем у брытанска-амэрыканскай традыцыі.

Такім чынам, тэрміналягічная сукупнасьць *слоўнік+энцыкляпэдыя* пакрывае прыблізна такое ж с. п., што й *dictionary+encyclopedia*, хоць паасобку с. п. *слоўніка* значна вузейшае за с. п. *dictionary*. Гэтым тлумачыцца, чаму менавіта так быў азначаны аб'ект нашае працы.

Зрэшты, існуе й іншы падыход да вызначэньня суадносінаў паміж *слоўнікам* і *энцыкляпэдыяй*: слоўнік і энцыкляпэдыя разглядаюцца як розныя кшталты лексыкаграфічнага даведкавага выданьня[10]:

---

[8]Tom McArthur. Reference materials and their formats // The World in a List of Words: Colloquium on Onomasiological Dictionaries. Essen, 1992 / Ed. W. Hüllen. Tübingen, 1994. (Lexicography Series Major. 58.) P. XII.

[9] В. Г. Гак. Словарь // Лингвистический энциклопедический словарь / Гл. ред. В. Н. Ярцева. М., 1990. С. 462.

[10] Manual of Specialised Lexicography: the Preparation of Specialised Dictionaries / Ed. H. Bergenholtz, S. Tarp. Amsterdam: Benjamins, 1995.




**§2.2. Што такое *слоўнік*.** Мы выходзілі з шырока зразуметага панятку *слоўнік*. Пад слоўнікам мы разумеем **сьпіс зь як найменш 10-ці[11] тыпалягічна аднародных моўных адзінак** (марфэмаў, словаў, словазлучэньняў, сказаў), **што як сукупнасьць нясуць лексыкаграфічную і/або энцыкляпэдычную інфармацыю**, у якім выконваецца хоць бы адзін з наступных прынцыпаў:

1) альфабэтны парадак разьмяшчэньня адзінак;
2) калі такі сьпіс мае больш за адно поле (паводле лексыкаграфічнай тэрміналёгіі — левую й правую часткі), слоўнікавая адзінка мусіць знаходзіцца ў першым полі (у левай частцы), а дэфініцыя (дэфініцыі) ды іншыя пазнакі павінны ўтрымлівацца ў другім і наступных палёх (у правай частцы), інакш кажучы, кірунак разгортваньня мусіць быць наступны: *адзінка → дэфініцыя;*
3) афармленьне кожнай адзінкі асобным абзацам.

Як дадатковыя (але не абавязковыя) прыкметы «слоўнікавасьці» сьпіса разглядаюцца розныя сродкі супрацьпастаўленьня палёў, найперш першага й наступных (левай і правай частак): прыкладам, першае поле можа падавацца вялікімі літарамі, і/або большым кеглем, і/або ў разрадку, і/або тлустым, і/або іншымі сродкамі вылучэньня[12].

**§2.3. Прынцып (парадак) укладаньня слоўніка**. Адзін з асноўных прынцыпаў укладаньня слоўніка — альфабэтны парадак.

---

[11] Зрэдку мы рэгістравалі слоўнікі зь меншай колькасьцю адзінак — у выпадках: калі гэта сапраўды каштоўны матэрыял; калі пэўны тэкст — частка большае працы, што ўтрымлівае іншыя лексыкаграфічныя тэксты, і сукупная колькасьць слоўнікавых адзінак перавышае 10.

[12] Прапанаванае азначэньне тэрміна *слоўнік* мае выключна ўжытковы характар (закліканы абслугоўваць патрэбы гэтае працы) і не прэтэндуе ні на ўнівэрсальнасьць, ні на вычарпальнасьць.

Аднак ня ўсе слоўнікі складаюцца паводле альфабэту, існуюць і іншыя прынцыпы: тэматычны, храналягічны, геаграфічны (у т. л. паводле тэрытарыяльна-адміністрацыйнага падзелу) і г. д. У спэцыфікацыі слоўнікаў, укладзеных паводле альфабэтнага парадку, прынцып укладаньня не пазначаецца. Калі ж слоўнік укладзены паводле іншых прынцыпаў, або з камбінаваньнем альфабэтнага й неальфабэтнага парадку, або з парушэньнем альфабэтнага парадку, або без усякага парадку, то гэты момант апісваецца ў спэцыфікацыі.

**§2.4. Які матэрыял мы фіксавалі.** Разглядаючы стварэньне бібліяграфіі ня толькі й ня столькі як самамэту, а хутчэй як крыніцу для далейшага практычнага выкарыстаньня лексыкаграфічных збораў, мы імкнуліся зафіксаваць нават колькасна нязначныя слоўнікі: часам цененькая ратапрынтная брашурка, нават невялікі сьпіс словаў у публікацыі можа ўтрымліваць больш каштоўнай інфармацыі, чымся чарговы акадэмічны фаліянт з залатым цісьненьнем (зрэшты, такія тамы ніколі не хаваюцца ад вока карыстальніка, а больш сьціплыя выданьні, пагатоў публікацыі ў пэрыёдыцы ці дадаткі ў кнігах нелінгвістычнага зьместу могуць аказацца па-за ўвагаю нават дасьведчанага дасьледніка).

Аднак апісаць увесь альфабэтна зарганізаваны матэрыял, які мае лінгвістычнае ці энцыкляпэдычнае значэньне, папросту немагчыма, таму мы вывелі з кола аб'ектаў бібліяграфічнага апісаньня тэлефонныя даведнікі, рознага кшталту табліцы й сьпісы; фіксаваўся толькі той таблічна й сьпіскава зарганізаваны матэрыял, што мае найбольшую каштоўнасьць і які найцяжэй знайсьці па назьве выданьня.

У выключных выпадках мы фіксавалі й тыя выданьні, што вызначаюцца аўтарамі (выдаўцамі) як *слоўнік* (*энцыкляпэдыя*), хоць гэтыя выданьні не адпавядаюць вызначэньню *слоўнік*. Прыкладам, праца Э. Дубянецкага «Сусветная культура: Ад старажытнасці да нашых дзён» (Мн., 2001) адпавядае вызначэньню *манаграфія*, аднак мы ўлучылі яе ў бібліяграфію, бо аўтар назваў сваю кнігу «папулярным энцыклапедычным даведнікам».

Па-за ўвагаю мы пакінулі «імітатары» слоўнікаў і энцыкляпэдыяў — мастацкія, публіцыстычныя ды іншыя творы, якія ні слоўнікамі, ні энцыкляпэдыямі не зьяўляюцца, хоць фар-

мальна могуць адпавядаць нашаму вызначэньню *слоўніка*. Сказанае найперш датычыць шматлікіх «тлумачальных слоўнічкаў», у якіх значэньне слова выводзіцца зь нечаканых для чытача асацыяцыяў (прыкладам, *муляр* 'цесны бот'[13]) — гэта, несумненна, гумарыстычныя творы (нездарма такія «слоўнікі» звычайна зьмяшчаюцца ў адпаведных рубрыках пэрыядычных выданьняў) і нічога агульнага зь лексыкаграфіяй ня маюць, хоць нельга адмаўляць ім у праве стацца аб'ектам адмысловых псыхалінгвістычных досьледаў. Часам азначаюцца як «слоўнік» творы эсэістыкі[14].

**§2.5. Геаграфічныя абсягі фіксаванага матэрыялу**. Пры складаньні бібліяграфіі мы сутыкнуліся з праблемаю, што лічыць *беларускім* з гледзішча геаграфічнага. Найперш гэта актуальна ў дачыненьні слоўнікаў лінгвагеаграфічнага профілю — дыялектных, тапанімічных, антрапанімічных, розных тыпаў энцыкляпэдычных. Натуральна, не ўзьнікала праблемы з матэрыялам, зьвязаным з сучаснай тэрыторыяй Рэспублікі Беларусь, а таксама тоеснай ёй тэрыторыяй БССР пасьляваеннага часу (зьмены тэрыторыі ў 1950—1960 гг. былі настолькі нязначныя, што іх вынікі ніяк не адбіліся на факталёгіі працы).

Значна складаней было вызначыцца з матэрыялам, «прывязаным» да тэрыторыяў па-за сучаснымі межамі Рэспублікі Беларусь, інакш кажучы, зь *беларускім этнаграфічным абшарам*. У бібліяграфію трапілі матэрыялы з наступнай часавай і прасторавай лякалізацыяй: Вялікае Княства Літоўскае ў межах XVIII ст.; за часамі Расейскай Імпэрыі — па губэрнях: Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Ковенскай, Менскай, Магілёўскай, Смаленскай, Чарнігаўскай; за часамі міжваеннай Польшчы (1921—1939) — Заходняя Беларусь: Віленскае, Навагрудзкае, Беластоцкае, Палескае ваяводзтвы; прылеглыя тэрыторыі суседніх дзяржаваў: Латвія (Дзьвіншчына — наваколье Дзьвінску, латыск. *Daugavpils*), Летува (Віленскі край), Польшча (усходняя частка былога Беластоцкага, цяпер Падляскага ваяводзтва), Расея (за-

---

13 Растлумачальны слоўнік «Ніўкі» // Ніва (Беласток). 1989—1990; Курбекаўскі тлумачальны слоўнік // Беларуская думка (Мн.). 1999. №11—12. С. 161.

14 Валерка Булгакаў. Слоўнік паняцьцяў [сэрыя эсэ] // Наша Ніва. 1999—2000; Слоўнік Свабоды // Arche. 2000. №7.

ходняя й цэнтральная часткі Смаленскае вобласьці, заходняя частка Бранскае вобласьці, паўднёвая частка Пскоўскае вобласьці), Украіна (паўночная частка Чарнігаўскае вобласьці). Пры вызначэньні геаграфічных абсягаў фіксацыі мы абапіраліся на клясычныя досьледы ў гэтай галіне[15].

**§2.6. Дакладнасьць фіксацыі.** Пры апісаньні выданьняў мы імкнуліся падаваць матэрыял — наколькі дазвалялі тэхнічныя магчымасьці — арыгінальнаю графікай[16].

---

[15] Прыкладам, Я. Карскі ўважаў за беларускія (апроч цалкам або пераважна беларускіх Віленскае, Віцебскае, Гарадзенскае, Магілёўскае, Менскае губэрняў) наступныя паветы: Арлоўскае губ.: Бранскі, Трубчэўскі; Калускае губ.: Жыздрынскі, Масальскі; Ковенскае губ.: Новааляксандраўскі; Курляндзкае губ.: Ілуксьценскі; Смаленскае губ.: Бельскі, Дарагабускі, Ельненскі, Красьненскі, Парэцкі, Рослаўскі; Сувальскае губ.: Аўгустоўскі, Сэйненскі; Цьверскае губ.: Асташкаўскі, Зубцоўскі, Ржэўскі; Чарнігаўскае губ.: Гародненскі, Мглінскі, Навазыбкаўскі, Ноўгарад-Северскі, Старадубскі, Сураскі. (Къ вопросу объ этнографической картѣ бѣлорусскаго племени // Могилевская старина. Вып. III: Годы 1902—1903. Могилевъ на Днепрѣ, 1903. С. [1]—6. С. 6.)

[16] У беларускамоўных бібліяграфічных працах савецкіх і, адпаведна, постсавецкіх часоў замацавалася практыка падаваць матэрыял рэфармаваным (савецкім) правапісам незалежна ад артаграфіі арыгіналу. Такое «асучасьненьне» мае, на нашу думку, дзьве прычыны. (1) Т ы п а л я г і ч н а я: на ўзор расейскае савецкае практыкі цытаваць дарэформавыя (да 1918 г.) выданьні новым, рэфармаваным правапісам (беларускі клясычны правапіс выглядаў тыпалягічна тоесным дарэформаваму расейскаму, а беларускі савецкі правапісны стандарт атаесамляўся з новарасейскім). На нашую думку, атаесамляць пералічаныя зьявы нельга: расейская рэформа 1918 году была падрыхтаваная найлепшымі акадэмічнымі сіламі Расеі задоўга да рэвалюцыйных падзеяў і ня мела вульгарнаідэалягічнага характару, а хутчэй дэмакратызавала, рэальна спрашчала правапіс; рэформа беларускага правапісу 1933 г. мела выразна ідэалягічны характар і ставіла за мэту «вымываньне» ўласнабеларускіх моўных рысаў на карысьць расейскіх. (2) І д э а л я г і ч н а я. Нівэляцыя напісаньня выяўляе імкненьне праз ігнарацыю «іншасьці» клясычнага правапісу завуаляваць, схаваць факт яго існаваньня.

## 3. Будова выданьня

**§3.1.** Выданьне складаецца з трох частак: уступная (з адным з разьдзелаў якой шаноўны чытач і знаёміцца; мае рымскую пагінацыю), каталёгі, паказьнікі (маюць арабскую пагінацыю).

Мы адмовіліся ад групаваньня матэрыялу па тэматычным прынцыпе, як гэта звычайна робіцца ў падобных выданьнях. Такі падыход тлумачыцца тым, што ці ня большая частка слоўнікаў можа быць улучаная не ў адну, а ў дзьве або некалькі тэмаў. Такім чынам, колькі тэмаў закранае слоўнік, столькі разоў ён згадваўся б у адпаведных месцах бібліяграфіі. Гэта выклікала б значнае (магчыма, у некалькі разоў) павелічэньне аб'ёму кнігі й наўрад спрасьціла б карыстаньне ёю.

Мы адмовіліся ад анатаваньня слоўнікаў з наступных прычынаў: 1) анатацыя мае суб'ектна-ацэначны характар, што замінае рэалізацыі прынцыпу навуковай аб'ектыўнасьці; 2) анатацыя займае шмат месца, што значна павялічыла б аб'ём кнігі; 3) пры апісаньні такога вялікага матэрыялу складаньне анатацыяў да кожнае пазыцыі заняло б часу больш, чымся складаньне ўсяе бібліяграфіі; 4) большасьць анатацыяў мела б шмат разоў паўтораныя характарыстыкі й складалася б з шаблённых формулаў, што лішні раз падкрэсьлівала б іх збыткоўнасьць; калі ж падаваць анатацыі толькі да асобных пазыцыяў, то гэта зноў-такі заакцэнтуе суб'ектыўнасьць анатаваньня; 5) матэрыял анатацыяў нязручна скарыстоўваць пры складаньні паказьнікаў, бо ён патрабуе дадатковай апрацоўкі й фармалізацыі.

Таму мы вырашылі пайсьці іншым шляхам і падаваць не анатацыю, а спэцыфікацыю — максымальна фармалізаваную характарыстыку слоўніка. Менавіта фармалізацыя й ёсьць гарантам аб'ектыўнасьці апісаньня матэрыялу. Мы ўсьведамляем, што фармалізацыя апісаньня слоўнікаў у нейкім сэнсе зьбедніла інфармацыю пра слоўнік, аднак, зь іншага боку, дала магчымасьць выразьней клясыфікаваць слоўнікі, збудаваць з разнароднага матэрыялу, сабранага ў бібліяграфіі, больш ці менш стройную, рэгулярную сыстэму. Да таго ж увядзеньне спэцыфікацыяў дазволіла максымальна аўтаматызаваць працэс складаньня паказьнікаў, што таксама ўяўляецца істотным, калі ўлічыць колькасьць матэрыялу й зыходную адмову ад групаваньня яго па тэматычным прынцыпе.

Верагодна, бальшыня карыстальнікаў будзе пачынаць працу з гэтай кнігаю з паказьнікаў, таму лягічна было б зьмясьціць іх перад каталёгамі, аднак, ідучы за традыцыяй, мы зьмясьцілі іх у апошняй частцы выданьня.

**§3.2. Каталёгі.** Усе лексыкаграфічныя крыніцы разьмеркаваныя па 3 каталёгах: (I) **выдадзеных** крыніцаў — выданьняў і публікацыяў, (II) **нявыдадзеных** крыніцаў — рукапісаў і картатэкаў ды (III) **электронных** крыніцаў — электронных слоўнікаў.

**§3.3. Паказьнікі.** У выданьне ўлучаная вялікая колькасьць паказьнікаў — 7, што тлумачыцца імкненьнем зрабіць карыстаньне бібліяграфіяй максымальна зручным і лёгкім: (A) паводле **тыпу слоўніка**, (B) паводле **ключавых словаў**, разьмешчаных па тэмах (тэматычны), (C) паводле **мовы**, зь якое ці на якую перакладаецца беларускі матэрыял, (D) **асабовы**, (E) **геаграфічны**, (F) паводле **месца** (звычайна гораду) выданьня, (G) паводле **году** выданьня.

## 4. Будова каталёгаў

Матэрыял у КАТАЛЁГАХ зарганізаваны ў *артыкулы* (падрабязьней гл. ніжэй), разьмешчаныя ў альфабэтным парадку.

**Альфабэтны парадак** у КАТАЛЁГАХ мае пэўныя асаблівасьці, прадыктаваныя імкненьнем, з аднога боку, захаваць арыгінальны правапіс пры апісаньні матэрыялу, з другога боку, не дапусьціць ускладненьня пошуку па альфабэце. Такім чынам, пры расстаўленьні па альфабэце:

1) прабел, апостраф ('), канцавы ъ (у расейскім дарэформавым правапісе), пачатковае *a*, *the* (у ангельскіх назвах выданьняў) ігнаруюцца;
2) кірылічныя *и* ды *i*, *е* ды *ѣ* займаюць у альфабэце тоеснае месца[17];

[17] У АСАБОВЫМ ПАКАЗЬНІКУ, дзе — як і ў каталёгах — захоўваецца арыгінальнае напісаньне, альфабэтны парадак мае (у параўнаньні з пададзенымі вышэй прынцыпамі) адну асаблівасьць: кірылічныя *и* ды *i* не займаюць тоеснага месца, а ідуць пасьлядоўна адно за адным, што дазваляе вонкава згрупаваць расейска- (праз *и*) і беларускамоўныя (праз *i*) напісаньні.

3) у лацінічным альфабэце парадак стандартны, асобнае ўвагі заслугоўваюць толькі наступныя выпадкі: a=ą ... l, ł ... s, ś, š ... v, w ... z, ź, ž=ż;
4) любы знак прыпынку, апроч коскі, трактуецца як абсалютны канец.

## 5. Будова артыкула й пазыцыі

**§5.1.** У кожным артыкуле зазвычай апісваецца адна пазыцыя: асобнае выданьне або разьдзел (частка, артыкул), улучаны ў асобнае выданьне. Пры афармленьні артыкула найперш скарыстоўваліся зьвесткі, зьмешчаныя на вокладцы і тытуле выданьня, а таксама пашпарт кнігі (выдавецкія зьвесткі, зьмешчаныя на адваротнай старонцы тытула або на апошняй старонцы выданьня). У выпадку супярэчнасьці гэтай інфармацыі прыярытэт аддаваўся інфармацыі (паводле ступені паніжэньня значнасьці) на вокладцы, на тытуле, у выдавецкіх зьвестках.

Кожны бібліяграфічны артыкул (пазыцыя) сканчаецца спэцыфікацыяй — апісаньнем слоўніка (падаецца курсівам).

Усе артыкулы падзяляюцца на *спасылкавыя* й *інфармацыйныя*. *Спасылкавыя* артыкулы ўтрымліваюць імя аўтара й назву выданьня ці публікацыі ды спасылку на іншае выданьне ці публікацыю, рэпрэзэнтаваную таксама імем аўтара й назваю; такія артыкулы ня маюць нумарацыі.

**§5.2.** *Інфармацыйныя* артыкулы, або *пазыцыі*, улучаюць наступныя пункты:

**§5.2.1. Нумарацыя**. Для зручнасьці карыстаньня бібліяграфіяй нумарацыя мае герархічны характар. Зьвесткі пра тамы, часткі, выданьні слоўнікаў і энцыкляпэдыяў афармляюцца як падпазыцыі (напр., нумар падпазыцыі 985.4 утрымлівае зьвесткі пра частку слоўніка, асноўнае апісаньне якога знаходзіцца ў пазыцыі 985).

Калі нумар пазыцыі вылучаны тлустым, гэта сьведчыць пра тое, што складальнікі азнаёміліся з выданьнем *de visu*, г. зн. «на ўласныя вочы». Нумарацыя пазыцыяў у розных каталёгах ажыцьцяўляецца рознымі сымбалямі: у КАТАЛЁГУ I — арабскімі лічбамі ў некурсіўным выкананьні; у КАТАЛЁГУ II — арабскімі лічбамі ў курсіўным выкананьні; у КАТАЛЁГУ III — рымскімі

лічбамі ў некурсіўным выкананьні. Гэта зроблена для таго, каб у паказьніках візуальна адрозьніваць нумары пазыцыяў з розных каталёгаў. Колькасьць пазыцыяў у КАТАЛЁГУ I не адлюстроўвае рэальнай колькасьці выданьняў і публікацыяў, апісаных у бібліяграфіі.

**§5.2.2. Апісаньне выданьня** (пункты 1—16):

1) **аўтар выданьня**, падаецца на пачатку пазыцыі ў тым выпадку, калі ён пазначаны на тытуле выданьня або на пачатку публікацыі; падаецца ў інвэрсійным парадку: прозьвішча, імя, разьдзеленыя коскаю. Калі аўтараў некалькі, то яны пералічваюцца праз кропку з коскаю. Гэты пункт адсутнічае, калі кніга ня мае аўтара або ён не пазначаны на тытуле ці вокладцы. (Пра сытуацыю, калі аўтар пазначаны ў іншым месцы (прыкладам, на адвароце тытула, у выдавецкіх зьвестках, у прадмове), гл. пункт 4.) Тытулы, пасады ды інш. падобныя азначэньні асобаў не падаюцца. Калі пазначаецца імя ды імя па бацьку аўтара (складальніка, рэдактара), то падаюцца толькі ініцыялы. Калі імя аўтара падаецца на тытуле толькі ў склонавай форме, то мы рэканструюем імя ў назоўным склоне й бярэм яго ў прастакутныя дужкі. Прозьвішча й імя (ініцыялы) аўтара падаюцца асобным абзацам, пры гэтым прозьвішча аўтара (калі аўтараў некалькі — першага ў шэрагу) вылучаецца тлустым. Імёны й прозьвішчы аўтараў (складальнікаў, рэдактараў і г. д.) падаюцца праз кропку з коскаю й у тым выпадку, калі ў арыгінале злучаюцца злучнікам;
2) **назва выданьня** (сюды ж улучаецца й падназва, якая аддзяляецца ад назвы дзьвюхкроп'ем; як падназва можа трактавацца й тэкст у дужках пасьля асноўнага тэксту назвы). Першае слова назвы вылучаецца тлустым; калі першае слова назвы рэпрэзэнтаванае несамастойнаю часьцінаю мовы (злучнік, прыназоўнік, часьцінка ды г. д.), то вылучаецца першае самастойнае слова разам з папярэднім несамастойным (групаю несамастойных) словам. Назва выданьня падаецца з новага радка. Калі гэта ўяўляецца істотным для складальнікаў бібліяграфіі, пры апісаньні публікацыі ў пэрыёдыцы пасьля назвы публікацыі ў круглых дужках падаецца назва рубрыкі;
3) **колькасьць тамоў** (кніг, частак), падаецца толькі ў тым выпадку, калі яна пазначаная на тытуле ці вокладцы;

4) **аўтар** (аўтар-складальнік, аўтар-укладальнік), пазначаецца ў гэтым месцы, калі ягонае імя ня вынесенае на тытул ці вокладку. Калі колькасьць аўтараў перавышае тры, то пазначаюцца толькі трое. Такі парадак падачы імя й прозьвішча пашыраецца на падачу імёнаў і прозьвішчаў складальнікаў (укладальнікаў), сябраў рэдкалегіяў, рэдактараў, кансультантаў ды г. д. Аўтары прадмоваў не пазначаюцца;
5) **грыф** выданьня (установа, якая патранавала выданьне кнігі ці ў межах дзейнасьці якой кніга была падрыхтаваная; пазначаецца на тытуле ці вокладцы выданьня, звычайна ў версе старонкі). У найменьнях установаў назвы ўзнагародаў, якімі яны ўганараваныя, ды імёны, якімі яны названыя, не падаюцца, апроч выпадкаў, калі гэтыя імёны нясуць асноўную намінацыйную функцыю (прыкладам, *Цэнтар імя Ф. Скарыны*);
6) **складальнік** (укладальнік);
7) **рэдакцыйная калегія** (камісія, камітэт, рада); (навуковы) **рэдактар**; (навуковы) **кансультант**. Памочнік рэдактара пазначаецца, калі рэдактараў ня больш за два. Аўтары прадмоваў і пасьяслоўяў (уступных і заключных артыкулаў і да т. п.) не пазначаюцца;
8) **мастак**, падаецца толькі пры апісаньні *ілюстраваных* слоўнікаў;
9) **месца выданьня** (зазвычай горад);
10) **выдавецтва**. У даўнейшых выданьнях замест выдавецтва (тады такой інстытуцыі папросту не існавала) падаюцца іншыя ўстановы, якія пазначаюцца на тытуле ў адпаведным месцы (у нізе старонкі, звычайна перад годам выданьня), — прыкладам, імя выдаўца, назва друкарні ці кнігарні й г. д.;
11) **год выданьня**;
12) **колькасьць старонак**. Калі лічба падаецца лацінскімі літарамі, то для лягчэйшага ўспрыманьня лікі ад 40 і больш дублююцца ў прастакутных дужках арабскімі лічбамі, напр.: LXXXII [82]. Пры апісаньні слоўнікаў, зьмешчаных у газэтных выданьнях, нумары старонак не падаюцца. Пры пазначэньні колькасьці старонак у выданьні мы кіраваліся тым меркаваньнем, што ў лік старонак не ўваходзяць канцавыя старонкі, не прысьвечаныя тэме выданьня, напр., з пазначэньнем выдавецкіх зьвестак, з рэклямаю ды інфарма-

цыяй пра іншыя выданьні. Калі ж канцавыя старонкі ўтрымліваюць *errata* (выпраўленьні памылак), але яны не пранумараваныя, то іх колькасьць падаецца пасьля колькасьці асноўных старонак у прастакутных дужках, напр.: 75+[2] с., дзе 75 — колькасьць асноўных старонак, 2 — колькасьць старонак *errata*. У выданьнях з камбінаванай пагінацыяй колькасьць старонак падаецца тымі лічбамі (знакамі), якія выкарыстоўваюцца для пагінацыі ў самім выданьні, прыкладам, рымскія+арабскія: XXII+256 с. Слова *старонка* падаецца скарочана (с.) і ў той мове, у якой выдадзеная кніга (пэрыёдык); калі ж гэта, прыкладам, зборнік артыкулаў на розных мовах, то назва старонак падаецца ў той жа мове, у якой падаюцца й іншыя атрыбуты выданьня. У тых беларускіх выданьнях, дзе замест слова *старонка* выкарыстоўваюцца іншыя (*балонка, бачына*), дзеля ўніфікацыі пагінацыя пазначаецца ў старонках. Калі дадатковыя старонкі не нумараваныя, то падаецца іх колькасьць. Калі ў кнізе ўсе старонкі не нумараваныя, гэта пазначаецца ў месцы, прызначаным для падачы колькасьці старонак, скаротам *Бп.* (без пагінацыі);

13) **назва сэрыі** (калі гэта сэрыйнае выданьне), падаецца ў круглых дужках;
14) **якасьць выданьня**, пазначаецца толькі калі выданьне надрукаванае на ратапрынце, рататары ці копіеры;
15) **наклад**, пазначаецца толькі ў выпадку, калі ён меншы за 500 асобнікаў;
16) **аб'ём** (колькасьць лексычных адзінак, энцыкляпэдычных артыкулаў і да т. п.), падаецца ў тым выпадку, калі кніга ёсьць слоўнікавым выданьнем (калі інакш — гл. пункт 22) і калі гэтая колькасьць вядомая (з самое кнігі або зь іншае крыніцы). Калі колькасьць адзінак пазначаная на тытуле й адпаведнае паведамленьне ўваходзіць у склад назвы, то падаецца ў адпаведным месцы — у назьве.

Паміж групамі пунктаў 1—3 і 4—8 ставіцца разьдзяляльнік (/).

**§5.2.3. Асноўная спэцыфікацыя** (пункты 17—22) — характарыстыка слоўніка, на падставе якой складзеныя, цалкам або часткова, 5 з 7 паказьнікаў (апроч месца (G) і году (H) выданьня); падаецца курсівам. Таксама курсівам робяцца іншыя пазначэньні й заўвагі аўтараў бібліяграфіі, каб адрозьніваць гэтыя

тэксты ад тэкстаў апісваных выданьняў. Такім чынам, курсіў выступае тут як мэтасродак апісаньня матэрыялу.

17) **тып слоўніка.** Характарыстыка тыпаў слоўнікаў раскрываецца ў паказьніку А. Тут мы зробім усяго колькі зацемак:

 a) размоўнікі ўлучаныя ў больш агульную групу — *фразавыя* слоўнікі;

 b) калі ў спэцыфікацыі слоўніка запазычаньняў не пазначана, у якую мову запазычаньні, то ў беларускую;

 c) калі слоўнік характарызуецца як *тэрміналягічны*, але ня мае іншых характарыстыкаў паводле тыпу слоўніка, гэта значыць, што ён утрымлівае тлумачэньне адпаведных тэрмінаў, аднак характарыстыкі *тлумачальны* ён не атрымлівае й у паказьніку як *тлумачальны* слоўнік не адлюстроўваецца. Выключэньне складаюць тэрміналягічныя слоўнікі ў фармаце сьпісаў (індэксаў, рэестраў), якія тлумачальнае часткі ня маюць. Тэрміны й намэнклятура (анатомія, батаніка, заалёгія ды інш.) не разьмяжоўваюцца, і адпаведныя слоўнікі ў спэцыфікацыі падаюцца як тэрміналягічныя;

18) **форма слоўніка**: a) уласна слоўнік (не пазначаецца); b) індэкс; c) рэестар; d) сьпіс. Індэксы й сьпісы падаюцца толькі ў тым выпадку, калі маюць лінгвістычны характар або ўтрымліваюць зьвесткі, не даступныя ў форме ўласна слоўніка;

19) **тэматычная** характарыстыка, найчасьцей прысутнічае ў спэцыфікацыі *энцыкляпэдычных* выданьняў;

20) **геаграфічная** характарыстыка, найчасьцей прысутнічае ў спэцыфікацыі *дыялектных* слоўнікаў і *энцыкляпэдычных* выданьняў. Калі пасьля характарыстыкі *дыялектны* геаграфічная характарыстыка адсутнічае, гэта значыць, што матэрыял рэпрэзэнтуе розныя рэгіёны Беларусі;

21) **асабовая** характарыстыка, найчасьцей прысутнічае ў спэцыфікацыі *слоўнікаў мовы аўтара;*

22) **аб'ём слоўніка**, падаецца ў гэтым месцы толькі пры апісаньні слоўнікаў, улучаных у няслоўнікавыя выданьні, афармляецца некурсіўным шрыфтам.

**§5.2.4. Дадатковая спэцыфікацыя**, у паказьніках не адлюстроўваецца:

 a) **парадак укладаньня**, падаецца толькі тады, калі слоўнік укладзены не па альфабэце або ня толькі па альфабэце; для апісаньня выкарыстоўваюцца такія характарыстыкі, як *не-*

*альфабэтны парадак, храналягічны парадак;*

b) **наяўнасьць нумарацыі**: *нумараваны*[18];

c) **таблічнае афармленьне**;

d) іншыя зьвесткі, істотныя для ўяўленьня пра зьмест і будову слоўніка.

У спэцыфікацыі раўназначныя характарыстыкі падаюцца ў альфабэтным парадку.

**§5.3. Афармленьне ўлучаных слоўнікаў.** Калі выданьне не ўяўляе зь сябе слоўніка, а слоўнік улучаны ў выданьне як адзін з разьдзелаў або фрагмэнт разьдзела, пасьля пералічаных зьвестак пра выданьне падаецца наступная інфармацыя:

— **месца фрагмэнта** ў кнізе (нумары старонак);

— **назва слоўніка** або — калі слоўнік не афармлены асобна — назва разьдзела, у які гэты слоўнік улучаны. Калі слоўнік займае сабою ня ўвесь разьдзел, то спачатку падаюцца старонкі разьдзела, далей — праз дзьвюхкроп'е — яго назва; потым — праз дзьвюхкроп'е — старонкі самога слоўніка, а пасьля гэтага — праз дзьвюхкроп'е — спэцыфікацыя.

**§5.4. Афармленьне публікацыяў**. Часам слоўнік улучаны ў зборнік ці ў іншае ня монаграфічнае выданьне, што складаецца з артыкулаў або разьдзелаў, напісаных (складзеных) рознымі аўтарамі. У такім выпадку перад зьвесткамі пра кнігу падаюцца зьвесткі пра публікацыю:

— **аўтар публікацыі**, афармляецца як пункт 1;

— **назва публікацыі**, афармляецца як пункт 2;

пасьля чаго ставіцца разьдзяляльнік (//) і падаецца апісаньне выданьня (гл. вышэй). У тых выпадках, калі назва слоўнікавай працы мае заагульны характар для ідэнтыфікацыі (прыкладам: «Слоўнік» ці «Тлумачэньне некаторых словаў»), яна падаецца ў каталёгу пад прозьвішчам аўтара або пад назваю выданьня, у якое ўлучаная.

[18] Калі пазначана, што нумараваны, але не падаецца колькасьць пазыцыяў, гэта значыць — нумарацыя не скразная. Калі колькасьць асобна нумараваных разьдзелаў невялікая, то колькасьць пазыцыяў падаецца наступным чынам: 35+57+82 паз., дзе кожная лічба — колькасьць пазыцыяў у асобным разьдзеле.

**§5.5. Герархія**. Наступныя выданьні, факсымільныя, асобныя выданьні, перавыданьні, перадрукі, пераклады афармляюцца падпазыцыямі – герархічным сьпісам. Калі выдавецкія зьвесткі выданьня, перавыданьня, тома, часткі, кнігі застаюцца тымі ж, што й у папярэдняй пазыцыі ці падпазыцыі, то ў наступнай пазыцыі яны ня згадваюцца (найчасьцей пры апісаньні школьных падручнікаў).

**§5.6. Скароты**. Скарачаюцца словы ў падназвах (працяг назвы пасьля дзьвюхкроп'я й у дужках) і ў спэцыфікацыі. Скароты з арыгіналу застаюцца нязьменнымі. Лічэбнікі ў падназвах замяняюцца лічбамі. Часам словы не скарачаюцца, каб даць чытачу шырэйшае ўяўленьне аб правапісе арыгіналу або калі скарачэньне замінае разуменьню тэкста.

Пры расшыфроўваньні скаротаў (гл. разьдзел «Скароты й умоўныя знакі») беларускі матэрыял падаецца толькі клясычным правапісам, незалежна ад таго, які правапіс выкарыстоўваўся ў арыгінале. Некаторыя скароты (найперш традыцыйныя, а таксама тыя, што мелі месца ў арыгінале) збольшага засталіся нерасшыфраванымі ў адмысловым разьдзеле.

**§5.7. Імаверныя зьвесткі**. Калі пэўныя зьвесткі маюць імавернасны характар (прыкладам, год выданьня кнігі ў самой кнізе не пазначаны, але яго можна рэканструяваць, абапіраючыся на іншыя зьвесткі), то такая інфармацыя падаецца ў ламаных дужках <..>. Прастакутныя дужкі [..] утрымліваюць зьвесткі, якія ёсьць у адпаведным выданьні (рукапісе), аднак падаюцца не ва ўласьцівых месцах (напр., месца выданьня пазначанае не на тытуле, а на адвароце тытула).

**§5.8. Правапіс і пераносы**. Мэтамова бібліяграфіі — клясычны правапіс у рэдакцыі В. Вячоркі 1995 году[19] з удакладненьнямі, зацьверджанымі Праскаю правапіснаю канфэрэнцыяй 1999 году. Пры пераносе беларускага тэксту мы карысталіся нормамі, сфармуляванымі ў «Выніковым дакуменце Дзяржаўнага камітэта па ўдасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы»[20].

---

[19] Спадчына. 1995. №5. С. 247—288.

[20] Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны: Дакументы і матэрыялы 1989—1997 гг. Мн., 1999. С. 96—100. С. 100.

Беручы пад увагу той факт, што матэрыял зьбіраўся цягам 45 гадоў і прынцыпы адбору ды апісаньня гэтага матэрыялу з часам мяняліся, аўтары ня могуць гарантаваць поўнае пасьлядоўнасьці ў падаваньні зьвестак. З удзячнасьцю прымаюцца заўвагі й прапановы, якія аўтары просяць дасылаць на адрас: Сп. З. Саўка, бульвар Шаўчэнкі 22-51, Менск, 220068, Беларусь; тэл. (375+17) 233-44-58; электронная пошта: zmicier@hotmail.com.

*Зьміцер* САЎКА

# СКАРОТЫ й УМОЎНЫЯ ЗНАКІ*

| | |
|---|---|
| абл. | абласны |
| авт. | автор; авторский |
| аг. | агульны |
| аг.-адук. | агульнаадукацыйны |
| аддз. | аддзел, аддзяленьне |
| адз. | адзінка |
| адз. зах. | адзінка захаваньня |
| адказ. | адказны рэдактар |
| адук. | адукацыя |
| акр. | акруга |
| альфаб. | альфабэтны |
| АНБ | Акадэмія Навук Беларусі |
| АН БССР | Акадэмія Навук Беларускай ССР |
| анг. | ангельская (мова) |
| АН РБ | Акадэмія Навук Рэспублікі Беларусь |
| АН УРСР | Академія Наук Української РСР |
| араб. | арабская (мова) |
| арг. | арганізацыйны |
| аргат. | аргатычны |
| ас(ь)в. | асьвета; асьветны |
| аўт. | аўтар |
| БАН | Беларуская Акадэмія Навук |
| БАПЦ | Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква |
| баўгар. | баўгарская (мова) |
| бг. | бяз году выданьня |
| БГИНХ | Белорусский государственный институт народного хозяйства им. В. В. Куйбышева |
| БГКТ | Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства |
| БГПУ | Белорусский государственный педагогический |

* Скароты з арыгіналу ў сьпіс ня ўносяцца.

| | |
|---|---|
| | университет (им. М. Танка) |
| БГТИ | Белорусский государственный технологический институт им. С. М. Кирова |
| БГТУ | Белорусский государственный технологический университет |
| БГУ | Белорусский государственный университет (им. В. И. Ленина) |
| БГЭУ | Белорусский государственный экономический университет |
| БДАМЛІМ | Беларускі Дзяржаўны Архіў-Музэй Літаратуры й Мастацтва |
| БДАСГ | Беларуская Дзяржаўная Акадэмія Сельскае Гаспадаркі |
| БДІНГ | Беларускі Дзяржаўны Інстытут Народнае Гаспадаркі імя В. В. Куйбышава |
| БДПА | Беларуская Дзяржаўная Політэхнічная Акадэмія |
| БДПУ | Беларускі Дзяржаўны Пэдагагічны Ўнівэрсытэт імя М. Танка |
| Б(Д)ТІ | Беларускі Дзяржаўны Тэхналягічны Інстытут імя С. М. Кірава |
| БДТУ | Беларускі Дзяржаўны Тэхналягічны Ўнівэрсытэт |
| БДУ | Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт (імя Ул. І. Леніна) |
| БДУІР | Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт Інфарматыкі й Радыёэлектронікі |
| БДУК | Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт Культуры |
| БДЭУ | Беларускі Дзяржаўны Эканамічны Ўнівэрсытэт |
| бел. | беларускі, беларуская (мова) |
| Белдзяржвыд | Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва |
| Бел. нав. | «Беларуская навука», выдавецтва |
| бел. м. навуч. | беларуская мова навучання |
| БелСЭ | Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя (Дзяржкамвыду БССР) |
| БелЭн | «Беларуская Энцыкляпэдыя», выдавецтва |
| библиогр. | библиографический |
| бібліягр. | бібліяграфічны |
| БІНІМ | Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва |
| биобиблиогр. | биобиблиографический |
| біябібліягр. | біябібліяграфічны |
| биогр. | биографический |
| біягр. | біяграфічны |

| | |
|---|---|
| б-ка | бібліятэка = библиотека |
| Бм. | Бязь месца выданьня |
| Бмг. | Бязь месца й году выданьня |
| Бп. | Без пагінацыі |
| БрГПИ | Брестский государственный педагогический институт им. А. С. Пушкина |
| БрДПІ | Берасьцейскі Дзяржаўны Пэдагагічны Інстытут імя А. С. Пушкіна |
| Б-сь | Беларусь |
| БФС | Беларускі Фонд Сораса |
| в. | 1. век |
| | 2. вёска |
| ваяв. | ваяводзтва |
| ВГПИ | Витебский государственный педагогический институт им. С. М. Кирова |
| ВГУ | Витебский государственный университет (им. П. М. Машерова) |
| ВДПІ | Віцебскі Дзяржаўны Пэдагагічны Інстытут імя С. М. Кірава |
| в/луж. | верхнялужыцкая (мова) |
| вобл. | вобласьць |
| вокл. | вокладка |
| вол. | воласьць = волость |
| ВС (БССР) | Верховный Совет (БССР) |
| вугор. | вугорская (мова) |
| вуч. | вучэбны |
| Вучпедвыд | (Дзяржаўнае) вучэбна-педагагічнае выдавецтва (Міністэрства асветы) БССР |
| выд. | выданьне; выдавецкі |
| выд-ва | выдавецтва |
| выд-ц | выдавец |
| вып. | выпуск |
| выпраўл. | выпраўлены (пра выданьне) |
| высш. | высший |
| выш. | вышэйшы |
| Выш. шк. | «Вышэйшая школа», выдавецтва |
| г. | 1. год |
| | 2. горад |

| | |
|---|---|
| ГА | грамадзкае аб'яднаньне |
| гал. | галоўны |
| галян. | галяндзкая (мова) |
| ГГУ | Гомельский государственный университет им. Ф. Скорины |
| ГДУ | Гомельскі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт імя Ф. Скарыны |
| геагр. | геаграфічны |
| геогр. | географический |
| ГИЗ БССР | Государственное издательство БССР |
| гішп. | гішпанская (мова) |
| гл. | главный |
| *гл.* | *глядзі* |
| гл. ред | главный редактор |
| гос. | государственный |
| ГП БГКТ | Галоўнае Праўленьне Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства |
| ГрГУ | Гродненский государственный университет им. Я. Купалы |
| ГрДПІ | Гарадзенскі Дзяржаўны Пэдагагічны Інстытут |
| ГрДУ | Гарадзенскі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт імя Я. Купалы |
| грэц. | грэцкая (мова) |
| губ. | губэрня; губэрнскі |
| гуман. | гуманітарны |
| д. | деревня |
| давед. | даведнік |
| дадат. | дадатак, дадатковы |
| дапам. | дапаможнік |
| дапоўн. | дапоўнены (пра выданьне) |
| дапрац. | дапрацаваны (пра выданьне) |
| дацк. | дацкая (мова) |
| дашк. | дашкольны |
| ДВБ | Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі |
| Дзяржвыд | Дзяржаўнае Выдавецтва |
| дис. | диссертация |
| добраахв. | добраахвотны |
| доп. | дополненный (пра выданьне) |
| друк. | друкарня |
| дыялектал. | дыялекталягічны |

| | |
|---|---|
| зап. | запісаў = записал |
| зб. | зборнік |
| зб. тв. | збор твораў |
| ІГ | Інстытут Гісторыі |
| ИИЭФ | Институт искусствоведения, этнографии и фольклора НАНБ (АН БССР, АНБ) |
| ІЛ | Інстытут Літаратуры імя Я. Купалы НАНБ (АН БССР, АНБ) |
| ІМ | Інстытут Мовазнаўства (імя Я. Коласа) НАНБ (АН БССР, АНБ) |
| им. | имени |
| Имп. | Императорскій |
| Имп. АН | [Россійская] Императорская Академія Наукъ |
| Имп. РГО | Императорское Русское Географическое Общество |
| ІМЭФ | Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (Н)АНБ |
| Інбелкульт | Інстытут Беларускае Культуры |
| ін-т | інстытут |
| інш. | іншы |
| испр. | исправленный (пра выданьне) |
| італ. | італійская (мова) |
| итал. | итальянский |
| ИЯ | Институт языкознания им. Я. Коласа |
| кал. | калюмна |
| камент. | камэнтар |
| кам-т | камітэт |
| камэнт. | камэнтар |
| кан. | канец |
| канд. | кандидат; кандидатский |
| канс. | кансультант |
| канф. | канфэрэнцыя |
| канч. рэд. | канчатковая рэдакцыя |
| карот. | кароткі |
| кір. | кіраўнік, кіраўніцтва |
| кл. | кляса = класс |
| кн. | кніга, кніжка = книга, книжка |
| коммент. | комментарий |
| ком-т | комитет |

| | |
|---|---|
| конф. | конференция |
| краевед. | краеведческий |
| крат. | краткий |
| краязн. | краязнаўчы |
| крымтат. | крымскататарская (мова) |
| Л. | Лёндан (як месца выданьня) |
| латыск. | латыская (мова) |
| лац. | лацінская (мова) |
| Л(Г)У | Ленинградский (государственный) университет, з 1993 г.: Санкт-Петербургский... |
| летув. | летувіскі, летувіская (мова) |
| літарат. | літаратурны |
| літ-ра | літаратура |
| лит-ра | литература |
| луж. | лужыцкая, -ія (мова, -ы) |
| М. | Масква (як месца выданьня) |
| м. | 1. мястэчка = местечко<br>2. мова |
| Маст. літ. | «Мастацкая літаратура», выдавецтва |
| М-ва | Міністэрства |
| М-во | Министерство |
| МгДПІ | Магілёўскі Дзяржаўны Пэдагагічны Інстытут імя А. Куляшова |
| МГІУН | Менскі Гарадзкі Інстытут Удасканаленьня Настаўнікаў |
| МГПИ | Минский государственный педагогический институт им. А. М. Горького |
| МДМІ | Менскі Дзяржаўны Мэдыцынскі Інстытут |
| МДПІ | Менскі Дзяржаўны Пэдагагічны Інстытут імя А. М. Горкага |
| МзДПІ | Мазырскі Дзяржаўны Пэдагагічны Інстытут імя Н. К. Крупскай |
| междунар. | международный |
| метад. | мэтадычны |
| метод. | методический |
| міжнар. | міжнародны |
| Мн. | Менск (як месца выданьня) |
| нав. | навука; навуковы |
| Нав. і тэх. | «Навука і тэхніка», выдавецтва |

| | |
|---|---|
| нам. | намесьнік |
| НАНБ | Нацыянальная Акадэмія Навук Беларусі |
| нар. | народны = народный |
| Нар. асв. | «Народная асвета», выдавецтва |
| нарвэск. | нарвэская (мова) |
| науч. | научный |
| нац. | нацыянальны = национальный |
| н. дз. | (да) нашых дзён |
| НДІ | навукова-дасьледчы інстытут |
| неальфаб. | неальфабэтны |
| недзярж. | недзяржаўны |
| нем. | немецкий |
| НЁ. | Нью Ёрк (як месца выданьня) |
| НІА | Нацыянальны Інстытут Адукацыі |
| н/луж. | ніжнялужыцкая (мова) |
| НИИ | научно-исследовательский институт |
| НМЦэнтр | Навукова-Мэтадычны Цэнтар |
| ням. | нямецкі; нямецкая (мова) |
| обл. | область; областной |
| обр. | образование |
| общ. ред. | общая редакция |
| о-во | общество |
| окр. | округ |
| окруж. | окружной |
| ОРЯС | Отдѣленіе русскаго языка и словесности (Императорской Академіи Наукъ) |
| отв. | ответственный |
| отд. | отдел, отделение |
| па-анг. | па-ангельску |
| па-бел. | па-беларуску |
| пав. | павет |
| па-галян. | па-галяндзку |
| па-гішп. | па-гішпанску |
| пад аг. рэд. | пад агульнай рэдакцыяй |
| падруч. | падручнік |
| падрыхт. | падрыхтоўка, падрыхтаваў |
| пад рэд. | пад рэдакцыяй |
| паз. | пазыцыя |

